



# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

№48 (259) 1 — 7 снежня 2000 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ НЕЗАЛЕЖНЫ ШТОТЫДНЁВІК, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997г.


**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**На І паўгоддзе 2001 года падпісная цана на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" складае:**

**для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс 63834) на адзін месяц — 427 рублёў, на квартал — 1281 рубель, на паўгоддзе — 2562 рублі.**

**для ведамаснай падпіскі (індэкс 64145) на адзін месяц — 1182 рублі, на квартал — 3546 рублёў, на паўгоддзе — 7092 рублі.**

**Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" толькі адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.**



● *3 СНЕЖНЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ІНВАЛІДАЎ*

## "СЯДЗІМ БЕЗ КАПЕЙКІ"

***Калі прааналізаваць пэўныя лічбы, то нельга не заўважыць, што агульная колькасць інвалідаў сярод нас вельмі значная.***

Як паведаміў нашаму выданню старшыня Пружанскага аддзялення Беларускага таварыства інвалідаў Міхась Петрусёў, каля 1200 інвалідаў зафіксавана ў іх таварыстве.

Па словах старшыні Бярозаўскага аддзялення Леаніда Каржа, у іх арганізацыі зарэгістравана 2800 інвалідаў. Сярод значных праблем — вельмі малая сацыяльная пенсія (інваліды дзяцінства атрымліваюць пенсію ў межах 8.700—13.000 рублёў).

Як паведамляе Васіль Саўчук, старшыня Івацэвіцкага аддзялення, у горадзе і раёне зарэгістравана 2045 інвалідаў (31 пярвічная арганізацыя). Па словах Васіля Ігнацьевіча, вялікую дапамогу таварыству аказвае райвыканкам.

"Сядзім без капейкі, — гаворыць Іван Іоначкін, старшыня Баранавіцкага аддзялення інвалідаў. — Раней спонсараў было больш, зараз — адзінкі". Іван Міхайлавіч у гэтым сэнсе вельмі ўдзячны птушкафабрыцы "Дружба". З 1300 членаў прапаўладкаваны адзінкі.

Як паведамляе галоўны спецыяліст Баранавіцкага гарадскога аддзялення Раіса Дрозд, галоўная праблема — маленькія пенсіі. Дапамагаюць станкабудаўнічы завод "Атлант", ВБПА, праваслаўная царква, прыватныя прадпрымальнікі (палівам, бульбай).

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*




Фота IREX/ProMedia.

## Держи карман шире!

**БАРАНОВИЧИ.** Говорят, что считать, сколько кусков мяса варится в кастрюле соседа— верх неприличия. И все же примерно эту цель преследует нижеследующая информация: разузнать в пределах города Барановичи кто сколько зарабатывает (а от этого напрямую зависит, кто сколько ест мяса).

Сентябрьская зарплата в промышленности составила 70.396 рублей. Строители промышленников несколько обогнали — 85.404. Тоже не бог весть какие деньги, но даже после них становится неудобным говорить о заработной плате медиков — 42.413 рублей. Педагоги их опережают примерно на 5 тысяч. Недалеко ушли служащие государственных учреждений — 52.388 рублей.

Самыми высокооплачиваемыми можно было бы считать банкиров с их средней зарплатой в 124.522 рубля, но это если не знать, что в городе есть зарплата в 271 тысячу рублей. И в противовес ей — 21.900. Это тоже реальная цифра сентябрьской зарплаты.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## БЮДЖЭТ ВЫКОНВАЕЦЦА, А ГРОШАЙ... НЯМА

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Парадокс раённай статыстыкі: план па даходах у бюджэт раёна за дзевяць месяцаў гэтага года выкананы на 100,7 працэнта, а грошай чамусьці няма. Хаця па расходах той жа бюджэт выкананы толькі на 75,1 працэнта.

Для простага чалавека гэта не зусім зразумела, бо ён спраўна плаціць падаткі, розныя зборы. Тады ж чаму работнікі бюджэтнай сферы (культура, адукацыя, медыцына) знаходзяцца ў такім бядовым стане, што горш і прыдумаць нельга.

Хуткая дапамога, напрыклад, выязджае па выкліку да хворага, а ў фельчара "хуткай" няма ні шпрыца, ні лякарства.

Яшчэ адзін прыклад. У Івацэвічах чацвёрты год ідзе рэканструкцыя невялікага ўчастка вуліцы імя Дзяржынскага. Такую маруднасць тлумачылі адсутнасцю грошай у бюджэце. Ужо сёлета аб'явілі, што срокі для заканчэння работ заплажены, так сказаць, у бюджэт. Ужо год набліжаецца да фінішу, а на вуліцы імя жалезнага Фелікса па-ранейшаму ціха.

Затое ў бюджэце заўсёды ёсць грошы на фестывалі, дажынкі, выбары і перавыбары, на ўтрыманне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

*Мікалай ДЗМІТРУК.*

## Пражыло немаўлятка 15 хвілін...

**БЯРОЗА.** У кар'еры каля завулка Ягадны знойдзена мёртвае цела нованароджанага дзіцяці. Эксперты зрабілі вывад, што дзіця нарадзілася здаровым і данашаным, а пражыло каля 15 хвілін. Смерць наступіла ад удушэння.

На працягу сутак было ўстаноўлена, што гэтае дзіця нарадзіла жыхарка г. Бярозы, якая, дарэчы, жыве непадалёку ад месца здарэння. Узбуджана крымінальная справа.

*Валянціна АМЕЛЬЧАНКА.*

### ЧАСТНЫЕ ОБЪЯВЛЕНИЯ

- Сниму квартиру. Звонить после 17.00 по телефону 35-2-64 (г. Ивацевичи).
- Продам цветной телевизор "Горизонт-413Д" б/у. Цена — 60 у. е. Телефон в Ивацевичском районе 31-9-42.
- Продаются дешево новый мягкий уголок, три кресла, детский диван, а также новый двигатель к мотоциклу "Восход-3". Телефон в Ивацевичах 2-37-10.
- Продаю покрытые нутрии-самочки. Телефон в Ивацевичах 2-37-10.
- Продаём доску половую, готовую к применению, а также сороковку (2 куб. м). Телефон в Ивацевичах 2-13-21.
- Продаётся новый пишущий видеоплейер "Самсунг". Гарантия — 1,5 года. Тел. в Ивацевичах 2-33-17.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Падкінуць грошыкаў

*З 1 снежня ў рэспубліцы зноў павялічацца працоўныя пенсіі. Падставай для іх пераразліку паслужыла павелічэнне сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у кастрычніку.*

У снежні мінімальная працоўная пенсія па ўзросту разам з устаноўленай урадам даплатай складзе 20 тысяч 837 рублёў. Максімальныя пенсіі пенсіянераў, якія не працуюць і маюць індывідуальны каэфіцыент заработку больш за 1,3 да 4, у залежнасці ад гэтага будуць вар'іравацца ад 42 тысяч 783 да 58 тысяч 939 рублёў. Для пенсіянераў, якія працуюць, максімальна магчымым будзе памер пенсіі ў суме 42 тысяч 783 рублёў (пры стажы 40 і 45 гадоў адпаведна ў жанчын і мужчын і індывідуальным каэфіцыенце заработку 1,3 і вышэй). Сярэдняя пенсія па ўзросту будзе складаць 38 тысяч 550 рублёў.

## Кадротрус по-лукашенковски

*27 ноября с. г. А. Лукашенко освободил от занимаемых должностей:*

**ШЕЙМАНА** *Виктора Владимировича* — от должности Государственного секретаря Совета безопасности Республики Беларусь — помощника президента Республики Беларусь по национальной безопасности в связи с переводом на другую работу. Генерал-майор Шейман Виктор Владимирович уволен с военной службы в запас;

**МАЦКЕВИЧА** *Владимира Александровича* — от должности председателя Комитета государственной безопасности, он зачислен в распоряжение председателя Комитета государственной безопасности Республики Беларусь;

**БОЖЕЛКО** *Олега Александровича* — от должности Генерального прокурора Республики Беларусь в связи с переводом на другую работу.

**СОСНОВСКОГО** *Александра Владимировича* — от должности министра культуры.

В тот же день А. Лукашенко назначил:

**ЛАТЫПОВА** *Урала Рамдраковича* — Государственным секретарем Совета безопасности Республики Беларусь — помощником президента РБ по национальной безопасности, освободив его от должности заместителя премьер-министра — министра иностранных дел Республики Беларусь;

**ХВОСТОВА** *Михаила Михайловича* — заместителем премьер-министра — министром иностранных дел Республики Беларусь, освободив его от должности помощника президента Республики Беларусь;

**ЕРИНА** *Леонида Тихоновича* — председателем Комитета государственной безопасности, освободив его от должности начальника Службы безопасности президента Республики Беларусь;

**НИКИТИНА** *Валентина Захаровича* — заместителем председателя Комитета государственной безопасности Республики Беларусь;

**УДОВИКОВА** *Михаила Дмитриевича* — заместителем Государственного секретаря Совета безопасности Республики Беларусь, освободив его от должности первого заместителя министра внутренних дел Республики Беларусь — начальника милиции.

## ВИЧ-инфекции наступают

*В Брестской области выявлено 152 ВИЧ-инфицированных. Таким образом, по распространению ВИЧ-инфекции Брестчина сегодня занимает второе место среди областей Беларуси после Гомельщины.*

"Лидером" этой печальной статистики на Брестчине, по-прежнему, остается Пинск, где выявлены 83 ВИЧ-инфицированных. В Бресте их 17 человек. Пока ни одного ВИЧ-инфицированного не выявлено в Березовском, Жабинковском и Пружанском районах. 106 человек из 152 инфицированных жителей области - мужчины. Причинами заражения 125 человек назвали использование "грязных" шприцев, 18 - беспорядочные половые связи. 92 человека из ВИЧ-инфицированных не имеют определенных занятий в жизни, 33 находятся в местах лишения свободы.

## Чарнобыльская АЭС будзе закрыта 15 снежня

*Чарнобыльская атамная электрастанцыя будзе закрыта 15 снежня 2000 года а 12-й гадзіне. Як перадае агенцтва УНІАН, пра гэта паведаміў першы віцэ-прэм'ер урада Украіны Юрый Еханураў, выступаючы 24 лістапада ў Будапешце перад прадстаўнікамі ўкраінскай дыяспары ў Венгрыі.*

Першы віцэ-прем'ер урада Украіны выказаў спадзяванне, што да 15 снежня Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця дасць згоду на выдзяленне Украіне крэдыту на дабудову блокаў дзвюх іншых атамных электрастанцый — Роўненскай і Хмельніцкай: гэта павінна кампенсаваць страты электраэнергіі, што выпрацоўвае Чарнобыльская АЭС.

*("Народная воля" — БелаПАН).*

ЮБІЛЕІ

## Слова пра Караткевіча

**ІВАЦЭВІЧЫ.** *26 лістапада — 70-годдзе з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Да свайго юбілею ён не дажыў, але засталася яго вялікая літаратурная спадчына: раманы, аповесці, апавяданні, п'есы, нарысы, вершы...*

З нагоды юбілею пісьменніка ў Любішчыцкай сярэдняй школе адбыўся ўрок-канферэнцыя. Акрамя вучняў, на ёй прысутнічалі маладыя настаўнікі беларускай мовы і літаратуры школ Івацэвіцкага раёна.

Цікавае і змястоўнае мерапрыемства падрыхтавала настаўніца беларускай мовы і літаратуры Валянціна Уладзіміраўна Сакута. І сама настаўніца, і вучні расказалі пра творчасць Уладзіміра Караткевіча, чыталі ягоныя вершы і ўрыўкі з твораў. Пра гучала нават песня беларускага кампазітара Даўгалёва "Палачаначка-князёўна", якую выканаў ансамбль васьмікласніц.

Сваімі ўражаннямі аб творчасці Уладзіміра Караткевіча падзяліўся на канферэнцыі запрошаны на яе супрацоўнік "Газеты для вас" С. Р. Каждуб.

*Сяргей* **СЛАВІНСКІ.**

АКТУАЛЬНА

## Хто дапаможа "Юбілейнаму"?

Гаворка пойдзе пра горад Косава Івацэвіцкага раёна. У ім ёсць Дом культуры, які ў аварыйным стане, таму не выкарыстоўваецца для правядзення масавых культурных мерапрыемстваў. Увесь цяжар выпаў на кінатэатр "Юбілейны", які размешчаны ў цэнтры горада. Тут дэманструюцца кінафільмы, праводзяцца дыскатэкі. У час перадвыбарнай кампаніі — сходы грамадзян.

Усё абсталяванне ў кінатэатры старое і паламанае. Частка нягодных крэслаў, напрыклад, спісана яшчэ ў чэрвені мінулага. Але многія стаяць, звязаныя дротам, і дагэтуль, бо новых набыць няма за што (на першым здымку ўверсе).





А на другім здымку гэта не айсберг у бязлюдным акіяне, як можа здасца, а такім стаў экран з матэрыі для дэманстрацыі кінафільмаў.

Хто ж дапаможа Косаўскаму кінатэатру "Юбілейны", хаця б замяніць тыя ж крэслы і экран?

*Кастусь* **ДЗЯМЧУК.**
*Фота Уладзіміра* **ХАЦІМКІ.**

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

## "Князёк" пад следствам

**БЯРОЗА.** Наша газета нядаўна пісала пра дырэктара саўгаса "Пескаўскі" В. Г. Манцэвіча, які ў парыве злосці стрэльнуў у п'яніц-жывёлаводаў і параніў аднаго з іх. Але гэтая гісторыя не закончылася. Працаўнікі саўгаса звярнуліся ў камітэт дзяржаўнага кантролю са скаргай, дзе прасілі пазбавіць іх ад дырэктара, алкаголіка і самадура, які дaвераны яму саўгас даўно стаў лічыць уласнай вотчынай. Пры праверцы ўсе факты пацвердзіліся.

Дырэктар па сутнасці разагнаў кадры саўгаса. Клапаціўся толькі пра сваіх родзічаў. Напрыклад, сыну, які займаўся на падрыхтоўчым аддзяленні сельгасінстытута, пабудаваў дом з пяці пакояў агульнай плошчай 276 квадратных метраў.

У час так званых начных праверак, калі дырэктар нанёс раненне работніку саўгаса В. П. Кудаку, ён быў у нецвярозым стане. А вось работнікі Белаазёрскай бальніцы па выніках медыцынскага агляду В. Г. Манцэвіча выдалі яму фіктыўнае заключэнне аб тым, што ён быў у цвярозым стане, калі ўчыніў на саўгаснай ферме злоснае нарушэнне.

Загадам па аб'яднанні "Брэстплодагароднінапрам" 30 кастрычніка 2000 года В. Г. Манцэвіч зняты з пасады дырэктара саўгаса "Пескаўскі".

Па факце нанясення цялесных пашкоджанняў работніку саўгаса пракуратурай Бярозаўскага раёна ўзбуджана крымінальная справа і перададзена ў следчы аддзел па асабліва важных справах пракуратуры Брэсцкай вобласці.

*Мікалай* **ДЗМІТРУК.**

КРЫМІНАЛ

## Па гарачых слядах

**ПРУЖАНЫ.** Аператыўна адрэагавалі ў дзяжурнай часці раённага аддзела ўнутраных спраў на тэлефонны званок загадчыцы магазіна вёскі Мазалі. Жанчына заўважыла, што нехта глыбокай ноччу гаспадарыць у краме і аб гэтым паведаміла ў міліцыю. Нарад работнікаў правапарадку заспеў на месцы злачынства 19-гадовага трактарыста з в. Ярашэвічы і яго сябра з Ваўкавыска, якія адабралі для сябе розных тавараў на 170 тысяч рублёў. Нядоўга цешыліся хлопцы нарабаваным. Толькі патрымалі ў руках тавары, як давялося іх вяртаць.

*Алесь* **САШЫН.**

## Ни к чему сапфиры и алмазы, если есть... бананы

**БАРАНОВИЧИ.** Убыток в 470 тысяч рублей принесла частному предпринимателю одна из ночей. Взломав крышу в гараже, воры украли бананы, лимоны, виноград, киви. Взяли не по килограмму — по четыре ящика всего вышеперечисленного, а также 5 ящиков апельсинов и полтора ящика киви. Не погнушались и 45 бутылками подсолнечного масла, хотя, как известно, цитрусовые можно есть и без жаренья.

*Галина* **СТРОЦКАЯ.**

## "Избили две пацанки"

**БЯРОЗА.** 14 лістапада ў 24.00 каля кафэ "На вуглу", больш вядомым як "У Вольгі", дзве непаўналетнія дзяўчыны заманілі выпіўшага, добра апранутага мужчыну ў бліжэйшы пад'езд і так збілі, што ён страціў прытомнасць. Завалодаўшы грашыма (80$ ЗША і 10000 беларускіх рублёў), яны зніклі.

Дзякуючы аператыўнасці работнікаў Бярозаўскай ДПС (яны заўважылі акрываўленага мужчыну, які патлумачыў ім сітуацыю, вымаўшы цытату, поўны зместу якой вы бачыце ў загалоўку), каля 4 гадзін раніцы дзве юныя рабаўніцы Аляксандра Р. і Ганна Х. затрыманы. Узбуджана крымінальная справа.

*Валянціна* **АМЕЛЬЧАНКА.**

У НАС НА ГАСТРОЛЯХ

## И приколы, и проколы

В конце ноября Барановичи с концертом посетили именито-знаменитые Илья Олейников и Юрий Стоянов со своим не менее знаменитым "Городком". Привезли "Проколы" и "Приколы". Впрочем, этого добра у нас и своего достаточно. Принимающая сторона в лице городского Дома культуры волновалась: раскупят ли билеты? Как-никак цена для провинциального города немалая — 8 и 10 тысяч рублей. Зря волновались. Раскупили все билеты.

*Галина* **СТРОЦКАЯ.**

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгiёна па стану на 29.11.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2100—2700 | 2100—3000 | 2200—2600 | 2400—2800 |
| Сала салёнае | 1800 | 1800—2400 | 2400 | 2300 |
| Алей (1 л) | 720—950 | 700—1100 | 750—950 | 700—950 |
| Яйкі | 900 | 800—1000 | 800 | 1000 |
| Малако (3 л) | 600 | 550 | 550 | 450 |
| Тварог | 700 | 700 | 700 | 700 |
| Масла сметанк. | 1800 | 1900 | 2000 | 2000 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 80 |
| Цыбуля | 250 | 120—160 | 150—200 | 200 |
| Морква | 200 | 100—150 | 180 | 200 |
| Капуста | 80—100 | 100—120 | 100 | 80 |
| Грушы | — | 600—1000 | 200—400 | 400 |
| Буракі | 60—80 | 60—80 | 60—80 | 80 |
| Мандарыны | 1500 | 1500 | 1500 | 1500 |
| Грэцкія арэхі | 1000 | 1500 | 1500 | 1000 |
| Яблыкі | 250—300 | 200—750 | 200—300 | 80—130 |
| Памідоры | 800 | 700—800 | 500—600 | 500—650 |
| Вінаград | 1000—2200 | 900—1800 | 1600 | 2000 |
| Хурма | 1600 | 1600 | 1500 | 1200 |
| Часнок | 800 | 800 | 1000 | 300—800 |
| Лімоны | 1300 | 1100—1300 | 1300 | 1300 |
| Апельсіны | 650—850 | 650—720 | 790 | 900 |
| Бананы | 700—800 | 650—720 | 790 | 900 |
| Гранаты | 1600—1800 | 1800 | 1500 | 1600 |
| Грэчка | 560—660 | 650 | 650 | 650 |
| Макар. вырабы | 320—460 | 300—400 | 510—550 | 350—600 |
| Рыс | 450—520 | 400—420 | 450 | 460—490 |
| Манныя крупы | 460 | 460 | 400—500 | 460 |
| Проса | 320 | 330 | 330 | 360 |
| Цукар | 550 | 550 | 530 | 550 |
| Мёд | 3.300 | 4.000 | 3.600 | 4.000 |

### ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1150 | 1300 | 1150 | 1300 | 1150 | 1300 | 1120 | 1250 |
| 1 дойчмарка | 470 | 480 | 470 | 480 | 470 | 480 | 460 | — |
| 1 рубель Расіі | 40 | 42 | 40 | 42 | 40 | 42 | 39 | 43 |

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Гуманітарная дапамога: што, каму, калі

*— "Газета для вас"? Званю вам з г. Косава (Івацэвіцкі раён). Недзе задоўга перад выбарамі ў наш горад прывезлі гуманітарную дапамогу (адзенне, абутак, мэбля, посуд і г. д.) і выгрузілі ў мясцовым ДК. Агульнавядома, што гуманітарная дапамога прызначаецца для інвалідаў, маламаёмных грамадзян і мнагадзетных сем'яў. Аднак на сённяшні дзень (23 лістапада) ніхто з гэтай катэгорыі людзей не атрымаў з гэтай дапамогі ніводнай рэчы. Па гораду ходзяць нядобрыя чуткі, што рэчы паціху расцягваюцца. Можа гэта і плёткі, але вось скажу вам адзін факт: у камісіі па размеркаванню дапамогі няма ніводнага інваліда ці шматдзетнай маці. Я сама — інвалід з дзяцінства, жывецца мне цяжка, і я не разумею, чаму работнікі Косаўскага гарсавета так мала думаюць пра такіх людзей, як я?*

*Алена Іванаўна Бурына, жыхарка г. Косава.*

**Скаргу Алены Іванаўны мы пераадрасавалі старшыні Косаўскага гарсавета Т. П. Хінко. Вось што паведаміла нам Тамара Пятроўна (не даслоўна, але за сутнасць сказанага ручаемся, размова была па тэлефоне):**

— Сапраўды, 5 кастрычніка г. г. у наш горад прыбыла гуманітарная дапамога вагою 3500 кг (абутак, адзенне, мэбля, сантэхніка, тэрмасы і некаторыя іншыя рэчы. Усё — б/у.) Але гэта зусім не значыць, што мы (створаная камісія) адразу можам раздаваць рэчы.

**— А хто ўваходзіць у камісію?**

— 8 чалавек. 6 работнікаў гарсавета, адзін работнік мясцовага Дома культуры і адзін — з дзіцячага садка.

**— А чаму нельга было адразу ж раздаць рэчы тым, каму яны прызначаюцца?**

— Як гэта адразу раздаць? Трэба ж скласці акт прыемкі, літаральна перабраць, перасартаваць і пералічыць усе рэчы, а потым адправіцца з гэтым актам на таможню, якая знаходзіцца на АТ "Івацэвічдрэў" у Івацэвічах. Таможня адсылае акт і свае заключэнне ў Адміністрацыю прэзідэнта. Адтуль павінен прыйсці дакумент, які дае дазвол на раздачу гуманітарнай дапамогі. Такі дазвол быў атрыманы 1 лістапада г. г.

Акрамя гэтага, камісія павінна мець спісы людзей з розных арганізацый Косава, якія маюць патрэбу ў прывезеных рэчах і маюць права на іх атрыманне (інваліды, маламаёмныя сем'і). Вось пакуль мы ўсе гэтыя дакументы здабывалі — надышоў і сённяшні дзень. Ды і сваёй работай у гарсавеце былі загружаны, выязджалі на сельгасработы ў калгас. Праўда, некаторым бюджэтным арганізацыям мы ўжо выдалі частку рэчаў.

**— Што гэта за бюджэтныя арганізацыі!**

— Школа (ёй аддалі 66 кг тканіны, лыжы, 4 стула, 15 талерак), бальніца (2 унітазы, 2 ракавіны, 4 падносы, 5 стулаў, стол), музычная школа (4 стула, крэсла, гаршкі для кветак (11 шт), ракавіна, шторы (4 кг), дзіцячы сад атрымаў розных выбраў 30 кг (шторы, абрус, цюль, два камбінезоны, куртку). Мо і яшчэ што давалі, гавару па памяці. Ну, і гарсавету выдзялілі 12 стулаў, 6 гаршкоў для кветак, 31 талерку. Людзей, здараецца, у гарсавеце няма дзе пасадзіць ці, калі ветэраны збіраюцца, посуду няма, каб чаю папіць.

**— Але ж чаму спачатку рэчы аддалі арганізацыям, а не людзям!**

— Таму што, як я ўжо гаварыла, мы павінны мець дакладныя спісы ўсіх тых, хто мае права і патрэбу ў гуманітарнай дапамозе. Хачу запэўніць, што асобы ў нашай камісіі ўсе сумленныя і самі хочуць хутчэй выканаць свай абавязак па раздачы рэчаў людзям.

*З А. І. Бурынай і Т. П. Хінко размаўляла Лідзія ЦАЛУЙКА.*

***P. S. Ці ўпэўнены вы, паважаныя чытачы, што пасля гэтай публікацыі пытанняў, чутак, домыслаў аб размеркаванні гуманітарнай дапамогі не будзе?***

КОНКУРС

"САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*СВЕТЛАНА, по гороскопу — Скорпион. Свободное время уходит на общение с друзьями, люблю слушать латиноамериканскую музыку, любимые исполнители — Энрике Иглесиас, Дженифер Лопес. Кумиров нет, ни на кого не хочу быть похожей.*

*Нравятся молодые люди с обостренным чувством юмора. Большого значения внешность не имеет.*

# Пра нашу любоў "к отеческим гробам"

*— "Газета для вас?" Хочам расказаць вам аб тым, як пашкоджаны магілкі ў вёсцы Яблонка калгаснымі і людскімі каровамі. Калісьці старшыня калгаса Міхаіл Радзня абяцаў уладкаваць справы з агароджай у 2001 годзе, але сёння знялі яго з пасады — і хоць бы хто пальцам паварушыў...*

*Надзея ПЕРАВАЛОЦКАЯ.*

*Івацэвіцкі раён.*

**Сітуацыю каменціруе сакратар Жытлінскага сельскага Савета Таццяна БЛАХІНА:**

— Вясной гэтага года старшыня нашага сельскага Савета Мікалай Шаўчук праводзіў сход з жыхарамі вёскі Яблонка. Старшыня паясніў, што грошай няма, але сельсавет гатовы ўзяць на сябе арганізацыйныя клопаты, можа дамовіцца з лясніцтвам, трэба толькі жыхарам сабраць грошы.

Жыхары аднесліся да гэтай прапановы без асобага энтузіязму, таму справа заглухла...

ЗНАК БЯДЫ

# П'янства расце і маладзее

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Пра гэта яскрава сведчаць лічбы. Толькі ў наркалагічным кабінеце Івацэвіцкай райбальніцы знаходзіцца на ўліку 717 чалавек, у тым ліку — 57 жанчын. 12 чалавек — наркаманы. Такая статыстыка за дзевяць месяцаў сёлетняга года. Кідаецца ў вочы тое, што на ўліку ёсць і зусім маладыя людзі — 20-гадовыя. А тое, што яны трапляюць у выцвярэзнік, стала звычайнай з'явай.

Засмучае і насцярожвае той факт, што на ўліку ўжо ёсць школьнікі (14—15 гадоў), якія з дапамогай бацькоў восьвось могуць стаць алкаголікамі і, вядома, згубяць сваё здароўе і пакалечаць сваю будучыню.

Бывалі сёлета выпадкі, калі ў раённую бальніцу прывозілі дзяцей у стане алкагольнага ап'янення. А адна маці нават пахваліліся доктару, што дае сваёй дачцэ патрохі гарэлкі, мауляў, для апетыту.

*Мікалай ДЗМІТРУК.*

СОЦИОЛОГИЯ

# БАРАНОВИЧИ: ПОЛИТИЧЕСКАЯ СИТУАЦИЯ

***В октябре 2000 года Агенством Регионального Развития "Варута" в рамках работы над программой "Разработка концепции экономического развития Барановичского региона" (руководитель проекта кандидат экономических наук, доцент БИП Гурский В. Л.) и при сотрудничестве со Студенческим Научным Обществом "Паллада", было проведено широкомасштабное социологическое исследование на предмет отношения жителей города Барановичи к политическим партиям, экономической ситуации в стране и их политической активности. В результате было опрошено более 1000 респондентов.***

В результате опроса выяснилось, что крайне незначительная часть населения (3,9%) оценивает уровень жизни своей семьи как очень хорошие и хорошие. 53, 5% жителей считают уровень жизни своей семьи средним, а 37,8% плохим или очень плохим. Оценка перспектив повышения благосостояния семей также довольно пессимистична: 34,7% считают, что положение не изменится, 15,7% надеются на улучшение, 24% думают, что положение ещё больше ухудшится, а 25% ничего не могут сказать.

Оценка экономического положения Беларуси во многом сходна с оценкой личного благосостояния семей (и это вполне объяснимо). Только перспективы улучшения экономического положения Беларуси ещё более мрачные: так, надеются на улучшение уже не 15,7%, а только 8,9%, считают, что положение ещё больше ухудшится не 24%, а 30%, ничего не могут сказать — 28,7%.

Неопределённость экономической ситуации накладывает свой отпечаток. Интересно заметить, что люди (почти треть населения — 28,7%) не только не могут оценить перспективы развития республики, но 13,5% респондентов не смогли оценить изменения в экономике даже за прошедший год. Такая неопределённость не может не сказаться на состоянии общественного сознания населения. Согласно приведённым цифрам у населения постепенно исчезает даже надежда на улучшение ситуации в республике, а это, на наш взгляд, является основной причиной того, что все больше людей уезжают или хотят уехать из страны.

Анализ политических предпочтений по отдельным партиям показал, что 76,5% не доверяют никакой партии, 97,3% не состоят ни в какой партии и почти 90% не желают вступать ни в какую партию.



Это совершенно ясно говорит о индифферентности населения к политическим партиям вообще. Люди считают, что политические партии в Беларуси не в состоянии решать реальные проблемы. Более того, согласно проведённому опросу, в Беларуси нет политических лидеров, имеющих сколько-нибудь существенный политический вес. Даже А. Г. Лукашенко набрал 16,9% "голосов" населения, что, по нашему мнению, является чрезвычайно низким уровнем для президента республики. Интересно, что точно такой же рейтинг у представителей КРДС в совокупности. При этом 60,7% не доверяют вообще никому, что свидетельствует о явном политическом кризисе в стране. Кроме того, интересно, что Лукашенко поддерживают только определённые группы населения, это рабочие, пенсионеры, служащие органов государственного управления. Так, среди группы респондентов доверяющих Лукашенко 30,7% рабочих, 20,7% пенсионеров, 15,6% служащих, 9,5% студентов и столько же ИТР, 5,6% домохозяек, 3,4% руководителей предприятий, по 1,7% предпринимателей, военнослужащих и безработных, у которых президент пользуется, по всей видимости, наименьшей популярностью.

На вопрос "Кого из местных политиков (руководителей городских органов власти, руководителей местных организаций политических партий) вы знаете?" было названо 55 фамилий. Среди них наиболее популярными оказались: Дичковский, Перепёлкин, Павлов, Стасевич, Цуприк, Добыш, Лозицкий, Костюкевич, Зуев, Заломай.

Согласно социологическому опросу, в парламентских выборах 15 октября собирались участвовать 56,9%, не собирались — 20%, не знали — 23,9%. Согласно итогам самих выборов по Барановичскому-Западному округу № 4 приняли участие 40,8% избирателей, по Барановичскому-Восточному №5 — 46,3%. Т. е. гораздо меньше, чем собиралось. Возможно, на политические настроения людей повлияла предвыборная кампания.

В процессе анкетирования был задан вопрос относительно возможного участия населения в каких-либо акциях протеста, если экономическое положение в Беларуси ещё ухудшится. Анализ анкет показывает, что 36,6% опрашиваемых не готовы участвовать ни в каких акциях, 26,5% затрудняются ответить. Таким образом, 63,1% населения выбывают из политической борьбы. Относительно конкретных методов протеста: в забастовке готовы участвовать 11,5% населения, в митинге — 9,7%, в пикете — 3,6%, подписать коллективную жалобу в органы государственного управления — 13,1%. Т. е. налицо преобладание пассивных методов — забастовки и жалобы.

Согласно результатам опроса можно нарисовать социальный портрет **наиболее политически активного жителя** г. Барановичи. Это мужчина, 18-39 лет, с незаконченным высшим или средним образованием, безработный, руководитель предприятия или студент.

Портрет **наиболее пассивного гражданина** выглядит следующим образом — женщина, более 60 лет, со средне-специальным или незаконченным средним образованием, домохозяйка, пенсионерка.

***Внимательный читатель нашей газеты, очевидно, обратил внимание на то, что наше издание неоднократно обращалось к истории последних (и мучительных!) дней жизни и смерти тринадцатилетней Оксаны Кулецкой, ученицы Ивацевичской СШ №1, которая 18 последних своих дней и ночей провела в поликлиниках Ивацевич и Бреста и которой лишь на 16-й день был поставлен верный диагноз. Как оказалось, слишком поздно.***

***Больше года прошло после тех страшных дней и событий. Прокуратура собирала сведения и факты ( мама Оксаны обратилась в суд ). Точки над "i" должен расставить суд, первое заседание которого состоялось 22-го ноября в Барановичском районном суде и на котором присутствовал корреспондент "Газеты для вас".***

**АВТОРСКОЕ ОТСТУПЛЕНИЕ:** *Читатель, очевидно, обратил внимание на тот факт, что хирург Павлик осматривал больную Оксану Кулецкую только в первый день её лечения - 10 сентября и что после этого приёма в течение 18 дней за девочкой наблюдало около 20 врачей-специалистов, которым - это нельзя не признать! - определить аппендицит или перитонит было гораздо проще, чем самому Павлику, повторимся, за 18 дней до смерти Оксаны. Но именно в его действиях следствием была обнаружена преступная халатность. Странно и пока необъяснимо с точки зрения логики!*

**Сергей Макар, хирург Ивацевичского РТМО:**

"10 сентября, во время моего дежурства в приёмном покое, около 16.00 к нам за помощью обратилась Оксана Кулецкая. Нами предполагался острый аппендицит, холецистит, поставленный педиатром гастрит. Рентгеновский снимок натолкнул нас на предположение, что у девочки двустороннее воспаление лёгких; больную мы направили в детское отделение..."

**Тамара Рыжко, зав. инфекционным отделением Ивацевичского РТМО:**

"...Мы сделали "узи" органов брюшной полости. Так как состояние органов брюшной полости было нормальным, а хирург Леонид Чадович зафиксировал, что хирургической патологии не наблюдается ("узи" не может дать точную картину на предмет того — есть ли воспалительный процесс аппендикса ). Разумеется, что мы искали заболевания среди болезней инфекционного характера и остановились на предположении, что у девочки иерсиниоз..."

# ДЕЛО ВРАЧЕЙ, или Жизнь и смерть Оксаны Кулецкой



## КРАТКАЯ ПРЕДЫСТОРИЯ

10 сентября 1999 года, около часа ночи, у Оксаны Кулецкой начались боли в области живота, под ложечкой в области желудка. Боли отдавали сначала в правую сторону, потом в левую. Фельдшер скорой помощи Ивацевичской РТМО Софья Калинка осмотрела девочку, сделала обезболивающий укол...

В 8.30 педиатром детской поликлиники Ириной Лазарчик больной был поставлен диагноз - острый гастрит. В тот же день хирург Владимир Павлик осмотрел девочку и отметил, что подозрения на аппендицит не подтверждаются... (Мама Оксаны и в тот день, и в последующем утверждала, что у её дочери, как ей кажется, аппендицит).

В тот же день, в 15.00 у Оксаны поднялась температура. В приёмном покое РТМО дежурный врач Сергей Макар осмотрел девочку и поставил диагноз — пневмония; больную поместили в детское отделение...

11 сентября Оксану перевели в инфекционное отделение: пневмония не прослушивалась...

17 сентября было сделано "узи" почек, желчного пузыря, печени, сделан рентгеновский снимок лёгких, который окончательно исключил пневмонию. В тот же день был взят анализ на иерсиниоз (инфекционное заболевание желудочно-кишечного тракта), начат новый курс лечения, после которого больной стало лучше, температура снизилась; через два дня температура повысилась опять...

За время с 11-го по 23 сентября Оксану осмотрели хирурги Леонид Чадович и Сергей Котик - аппендицит обнаружен не был...

23 сентября Оксана получила выписку из болезни, и 24 сентября лечение продолжилось в Брестской областной больнице...

26 сентября больная Кулецкая прошла лапороскопию, вследствие чего выяснилось, что у девочки запущенная форма перитонита (разлившийся аппендицит; в брюшной полости оказалось около трёх литров гнойных выделений). Проводилось удаление токсинов; сделана гемосорбция (метод очищения крови от токсических веществ при тяжёлой форме интоксикации), в ходе которой из-за ошибки врачей произошло смещение катетера и в плевральную область попало около 1,5 литра крови...

28 сентября в 16.30 Оксана Кулецкая умерла...

Всего в лечении девочки приняло участие 20 врачей...

## "ВСТАТЬ! СУД ИДЁТ"

Судебное заседание началось с обвинительного заключения, зачитанного судьёй Петром Макодаем, согласно которого хирург Ивацевичского РТМО Владимир Павлик и зав. отделением реанимации и анестезиологии областной больницы Анатолий Феоктистов обвиняются в том, что в результате их преступной небрежности и невыполнения всех своих служебных обязанностей, несвоевременной постановки диагноза (ст. 104, часть 1 — неосторожное убийство) погибла Оксана Кулецкая.

Хирург Владимир Павлик обвиняется в том, что 10 сентября, во время приёма больной Кулецкой, не провёл полного обследования на аппендицит. В частности, не сделана была пальпация (обследование толстой кишки), которая могла бы выявить патологию, тем более,что аппендикс располагался так, что пальпация могла дать положительный результат; а также в том, что хирург не предложил больной лечь в больницу (отсутствует соответствующая запись в истории болезни).

В предоставленом ему слове обвиняемый хирург Владимир Павлик заявил, что виновным в смерти девочки себя не считает, отказался от услуг адвоката и попросил защищать его интересы в суде, в качестве общественного защитника, Светлану Головач, зав. хирургическим отделением Ивацевичского РТМО.

Хирург Владимир Павлик пояснил, что анализы крови и мочи, нормальная температура тела не давали повода для подозрений, что девочка больна аппендицитом. Пальпацию хирург не провёл вследствие того, что у него короткий палец, сделать запись о том, что он предлагает Кулецкой стационарное лечение, хирург не успел, но он сделал его в устной форме (мать умершей девочки Галина Кулецкая тут же опровергла последнее утверждение хирурга).

*Несложно сделать вывод: буква закона в данном случае полностью покрывает дух того же закона, а ошибка в определении диагноза, как это ни покажется странным кому-то , не является главной погрешностью врача, гораздо важнее сделать в нужной карточке в нужное время запись.*

Зав. отделением реанимации и анестезиологии Анатолий Феоктистов обвиняется в том, что во время гемосорбции произошло смещение катетера, вследствие чего кровь попала в плевральную область. Через 35 минут после начала гемосорбции у больной упало давление, операция была прекращена...

В предоставленном ему слове обвиняемый Анатолий Феоктистов заявил, что признаёт свою вину частично...

## СВИДЕТЕЛИ И СУДЬИ

Вторая часть слушаний судебного заседания продолжилась опросом свидетелей, которые должны были более детально и скрупулёзно донести составу суда картину тех 18 дней ( с 10 по 28 сентября 1999 года ) - последних дней жизни и смерти Оксаны Кулецкой.

С нашей стороны, думается, наиболее справедливым будет хронология выступлений каждого из свидетелей.

**Софья Калинка, фельдшер скорой помощи Ивацевичского РТМО:**

"10 сентября в 4.30 мы были вызваны по адресу: г. Ивацевичи, пер. Солнечный, д.7. Больная Оксана Кулецкая жаловалась на боли в области живота. Температуры не было. Я сделала обезболивающий укол, предположив, что имеет место временное расстройство желудка, предложив утром явиться на приём к педиатру... Родители Оксаны произвели впечатление серьёзных и ответственных людей..."

**Людмила Семенюк, зав. первым инфекционным отделением областной больницы:**

"Ребёнок к нам отправлялся, если говорить по существу, для установления диагноза, так как и после того, как он в течение 13 дней находился в Ивацевичском РТМО, в карточке был указан диагноз (иерсиниоз ) под вопросительным знаком..."

**Сергей Гетманчук, хирург областной больницы:**

"Большое количество принятых девочкой антибиотиков смазало клиническую картину; больную мы даже отправляли на приём к гинекологу. 26 сентября провели лапороскопию, которая зафиксировала: у девочки перитонит..."

**АВТОРСКОЕ ОТСТУПЛЕНИЕ:** *Пока на суде не возникло вопроса об ответственности за это пичканье больной антибиотиками.*

**Василий Бохан, хирург областной больницы:**

"Оксану в первый раз я увидел уже на столе в операционной...

Могу утверждать однозначно: перитонит у больной Кулецкой был далеко не первого дня. В брюшной полости - огромные гнойники, отросток кишки мы нашли с трудом. В брюшной области находилось около трёх литров гнойных выделений. **Та терапия, которая до этого проводилась в Ивацевичской РТМО, совершенно смазала картину заболеваний,** которое ушло от местной симптоматики к общей..."

**Александр Коваленко, зам. главврача областной больницы:**

"В связи с ошибкой, связанной с установлением катетера, мы проводили дренаж грудной клетки, срочно вызвали консультанта из Минска. Состояние девочки было крайне тяжёлым, в грудной полости находилось около 1,5 литра крови..."

**Александр Курчейко, патологоанатом областной больницы:**

"Вскрытие подтвердило, что у умершей Оксаны Кулецкой был развитый фиброзно-гнойный перитонит, в плевральной области находились сгустки крови.

Зафиксирована несостоятельность швов слепой кишки: кишечное содержимое поступало в брюшную полость, функции печени, селезёнки были нарушены; очевидно катастрофическое изменение работы всех органов, в том числе свойство печени свёртывать кровь.

Девочка в любом случае умерла бы. Как мне кажется, причиной тому был бы именно перитонит. Если бы не через день-другой, то через пять..."

**АВТОРСКОЕ ОТСТУПЛЕНИЕ:** *После выступлений прокурора, адвокатов, обвиняемых, свидетелей невозможно отделаться от одной, может быть, крамольной мысли. То, что смерть Оксаны Кулецкой — это горе и трагедия для родных, родителей, понятно. Но не является ли смерть Оксаны ещё и диагнозом всей нашей медицине? Приношу извинения за может быть не совсем удачный оборот, но, умерев, Оксана словно дала урок: если не конкретным врачам, то всей медицине вместе взятой. Потому как даже в суде и обвиняемые, и свидетели, добрая дюжина врачей, толковали причину смерти девочки абсолютно по-разному; до сих пор вопросом остаётся то, как долго у больной Кулецкой был перитонит, насколько он повлиял на исход, ставший летальным, было ли смещение катетера роковым... Как заметил судья Пётр Макодай, чем дальше разбираешься в этом деле, тем больше возникает вопросов...*

*В сухой последовательности сбивчивых выступлений как-то непривычно звучало начало повествования потерпевшей Галины Кулецкой: "10 сентября, около часа ночи, мы услышали плач из комнаты, где находилась Оксана..." Девочка, почувствовав недомогание, не сама пришла к маме, терпела боль, она словно предчувствовала ту дорогу в 18 её последних дней, которая уготована ей взрослыми и вроде как образованными дядями и тётями. "Балуйте своих детей побольше, господа! — советовал нам классик. — Ведь вы ещё не знаете, что (выделено мною — А. Г.) их ожидает".*

*Александр ГОРБАЧ.*

**P. S. Судебное заседание на этом было приостановлено, дать окончательную характеристику действиям ивацевичских и брестских врачей должны минские эксперты, которые приглашены на следующее судебное заседание. "Газета для вас" вернётся к этой теме. Обязательно вернётся, ибо нет темы важнее, чем жизнь и смерть человека.**

**Следите за нашими публикациями.**

*Ивацевичи — Барановичи.*




(Працяг. Пачатак у №№ 26—32, 34, 35, 37, 42, 45, 46, 47).

## XII. З ВЁСКІ ВОГНЕННАЙ

18.

Маці, братоў Грышу і Віктара, сястрычку Кацю Сяргей знайшоў праз некалькі дзён. Як яны вырваліся з вогненнага пекла, расказала мне Лізавета Мікалаеўна, маці Сяргея Аляксандравіча. Ёй вось-вось споўніцца 89. Жанчына сядзела на лаўцы ля хаты, выйшла падыхаць свежым паветрам.

— Які страх тады быў, — расказвае Лізавета Мікалаеўна. — Усіх зганялі ў хату. І бабаў, і дзяцей. І мяне туды запхнулі. Загадалі чакаць. Кацькі было паўтара годзіка, Грышы — сем, Віці — восем. Я адчувала, што нас, як і мужчын, паб'юць. Я за дзяцей і з хаты ў агарод. Дзе ж схавацца? У метрах дзесяці раслі гарбузы. Лісце яшчэ не пасохла. Дзяцей паклала ў радок у разору, а сама лягла побач з Кацяй. Гарбузінне закрывала нас, хаця, калі добра прыглядзецца, можна ўбачыць нас і здалёк.

Я думала, што ўсё хутка скончыцца, і мы выберэмся адсюль. Калі нагналі поўную хату, тады пачалі страляць і падпалілі хату. Што там рабілася, не расказаць. Кацька стала плакаць,а я ёй шапчу: "Не плач, бо заб'юць



*Лізавета Мікалаеўна Чырко (фота 1964 г.).*

нас". Хата моцна гарэла, нам жарко стало. Адзежа на дзецях пачала тлець. Я шарыла рукамі па зямлі, шукала макрэйшай і пасыпала ёй адзежыну і на галоўкі сыпала. Грышка і Віця з боку на бок пераварочваліся. Ім добра прыпякала. А ў адзін момант мы падумалі, што нам канец. Немец з аўтаматам бег проста на нас. Але, як думаю, не ўбачыў нас, бо пераскочыў цераз разору і пашалясцеў далей.

Нарэшце, немцы пасунуліся з двара. Хата дагарала. Мы адпаўзлі па разоры яшчэ на метраў дзесяць і там ужо ляжалі да самога вечара, бо за вёскай сталі немцы.

19.

Сям'я Чыркоў знайшла сабе прытулак у Малой Гаці. Там жылі да вызвалення раёна ад захопнікаў. Цяжка ўсім было без бацькі. Усё ж чацвёра дзяцей — не жартачкі.

— Нас выручыў, можна сказаць, бацькаў брат Максім, — заўважыў Сяргей Аляксандравіч. — Ён стаў нашым другім бацькам і пагадаваў усіх нас. Яму і маці мы абавязаны ўсім і ў першую чаргу тым, што выжылі ў цяжкі час...

З сям'і Чыркоў у Бабровічах зараз жывуць Рыгор і Сяргей, іх маці Лізавета Мікалаеўна. Каця з сям'ёй знаходзіцца ў Данецку.

Па-рознаму склаўся лёс і гэтых дзяцей вайны. Яны даўно маюць свае сем'і. Напрыклад, у Сяргея Аляксандравіча чацвёра дзяцей. Жывуць яны ў Івацэвічах, Целяханах і нават у Севастопалі.

Верная спадарожніца Сяргея Аляксандравіча ягоная жонка Васіліса Іосіфаўна таксама з мясцовых жыхароў. Яна вельмі хацела жыць, верыла ў жыццё і, відаць, гэтая вера дапамагла ёй.

— Я да апошняга не хацела верыць, — разважае Васіліса Іосіфаўна, — што немцы будуць страляць жанок і дзяцей. Я ж перад вайной была ўжо немалой. Нас у суседнюю хату прымусілі пайсці. Пакуль астатніх збіралі, мая маці і кажа: "Чаго ж вы ў хаце сядзіце? Бяжыце, хавайцеся, хто можа. Паліць будуць". Ніхто з месца не зварухнуўся. А мы з маці, брат Міша на агародзе схаваліся. За агародам — поле. Там немцы стаяць, нікуды не выскачыш. З нашых брата Пецю забілі, сястру Куліну. Яе, 12-гадовую дзяўчынку, жывой у агонь кінулі. Яшчэ і сёння ў вушах звініць яе апошні крык: "Ой, мамачко, ой, родная, ратуй..." Асабліва бегаў па вуліцы і стараўся паліцай Косцік. Колькі людзей ён загубіў? А нам суджана было жыць і выжылі. І дзяцей пагадавалі. Ёсць Бог на свеце, веру я...



*Васіліса Іосіфаўна Чырко (фота 1979 г.).*

20.

І Васіліса Іосіфаўна, і Сяргей Аляксандравіч — людзі веруючыя. Яшчэ да вайны, калі ў Бабровічах была царква, яны, дзеці, хадзілі туды разам з бацькамі. У вайну царкву спалілі, спалілі і папоўскую хату. Там, дзе раней стаяла вясковая святыня, расце яшчэ з вайны абпалены клён, як напамінак аб святым месцы. Старажылы добра ведаюць аб гэтым.

А некалькі гадоў таму, калі Сяргей Аляксандравіч Чырко пасвіў кароў паблізу вясковых могілах, там, дзе раней стаяла хата і жыў мясцовы святар Баляслаў Пачопка, на самым папялішчы ён знайшоў металічны крыжык. Яго даўжыня прыкладна дваццаць сантыметраў, з надпісамі на лацінскай мове. Як сцвярджаюць старажылы, гэты крыж быў у царкве заўсёды пры алтары, і святар даваў цалаваць яго прыхажанам пры прычасці, споведзі, іншых царкоўных абрадах.

Зараз гэты крыж у хаце Сяргея Аляксандравіча і Васілісы Іосіфаўны і знаходзіцца побач з іконай на покуце. Як мяркуюць самі гаспадары, гэта добрая прыкмета таго, што і гэты дом, і іх насельнікаў ніколі не напаткае такая бяда, якая навалілася на вёску і яе жыхароў у мінулую вайну.



*Вуліца ў вёсцы Бабровічы.*

21.

Міхаіл Мікалаевіч Горбач — ураджэнец вёскі Бабровічы. Пасяліўся і жыве многа гадоў у Соміне. У 1940 годзе яго прызвалі ў армію, служыў у Сібіры. Пасля вайны там жа ахоўваў нямецкіх ваеннапалонных, якія працавалі ў тайзе на лесапавалах. Потым вярнуўся дамоў.

Аднойчы, будучы ў гасцях у свайго пляменніка Мікалая Антонавіча Горбача ў Бабровічах, расказаў такую гісторыю.

"Калі я ахоўваў нямецкіх палонных, прыходзілася размаўляць з імі. Некаторыя з іх ужо трохі гаварылі па-нашаму. Аднойчы ў час перапынку немец (а звалі яго Гансам) дастаў з кішэні замусолены блакноцік і пачаў пералічваць, дзе ён ваяваў. "Я не забіваў рускіх, — сказаў ён тады мне. — Я спачуваў ім. У мяне таксама сям'я, дзеці". Пералічваючы населеныя пункты, дзе быў Ганс, ён назваў Бабровічы. Я зацікавіўся і пачаў распытваць. Аказалася, што гэта мая вёска, мая радзіма.

"Калі забівалі людзей і палілі вёску, я стаяў у ачапленні, — сказаў Ганс. — Помню, пад тоўстай грушай. Хто мог, уцякаў. Але за вёскай іх дабівалі, не выпускалі. Паблізу мяне прабіраліся два хлопчыкі, гадоў па сем ім было. Убачыўшы мяне (а гэта метраў дваццаць), прытаіліся. Я махнуў рукой, каб беглі далей у лес. Яны паслухаліся, падняліся і паімчаліся далей. Я пастраляў угару, пакуль яны дабраліся да лесу і схаваліся".

Я чамусьці паверыў Гансу. З таго дня мы пазнаёміліся. Я частаваў яго махоркай, трохі падкармліваў. З маёй дапамогай ён, можна сказаць, і выжыў. Расталіся мы ўжо сябрамі. Былі, аказваецца, і сярод немцаў добрыя людзі, як гэты Ганс..."

Калі Міхаіл Мікалаевіч скончыў свой расказ, Мікалай усклікнуў:

— Дзядзечка, то ж я тагды быў з Ваням Кроцікам. Усё супадае, ейбогу...

— Значыць, я не памыліўся, — падвёў вынікі сваіх успамінаў дзядзька Міхаіл. — Чула сэрца, што Ганс гаворыць праўду...

22.

Як жа ўсё было на самай справе? Аб гэтым ужо расказаў Мікалай Антонавіч Горбач, з якім я сустрэўся.

— Столькі гадоў мінула, але я ўсё помню, — пачаў Горбач. — Зараз мне 65 гадоў, а тагды было сем. У нядзельны дзянёк панаехалі немцы і паліцаі. Тату расстралялі дзень назад. Маці і нас, чацвёра дзяцей, загналі ў суседнюю хату. Але я не пайшоў, сказаў маці, што мне халадно і пабягу дахаты што-небудзь адзець. "Ну, бяжы, толькі хутко", — сказала яна. У садку сустрэў Ваню Крата. "Уцякайма, Ваня, — прапанаваў я яму. — Біць усіх будуць". Ваня спярша не згаджаўся, але я ўгаварыў яго. Праз дзірку ў драцяной сетцы агароджы я вылез з садка, перабег цераз вуліцу, агляднуўся, а Крата няма. Вярнуўся і знайшоў Ваню ў садку. Ён не змог пралезці праз тую дзірку. Я дапамог яму і пачалі разам выбірацца з дзярэўні. На ўскрайку ля тоўстай грушы (там "Дулі" былі заўсягды вялікія і смачныя) убачылі немца. То ж дзела было днём, схавацца трудно. Ляжымо на зямлі і не ведаем, што ж рабіці далей. А немец стаіць, сочыць за намі. На шыі аўтамат вісіць. Патом бачым — махае рукой. Мы панялі, што трэба бяжаці к лесу. Хуценько ўсталі і пабеглі. А немец пачаў страляць, сем раз стрэліў. Я азірнуўся і ўбачыў, што ўверх страляе..."




*Помнік на брацкай магіле на могілках у Бабровічах.*



*Мікалай Антонавіч Горбач у час службы ў Балтыйскім флоце (фота 1955 г.).*

Такім чынам, той немец Ганс па сутнасці выратаваў жыццё двух дзяцей з вёскі Бабровічы. А можа не толькі ў гэтай вёсцы? І пра гэта Мікалай Антонавіч Горбач ніколі не забывае. Відаць, як ён кажа, лёсам было наканавана яму выжыць, каб працягваць іхні род.

23.

А тым часам Мікалаева маці з трыма дзецьмі зайшла ў тую хату, куды зганялі аднавяскоўцаў. Пабачыла, што справы кепскія, узяла дзяцей і ціха пасунулася ў канец падворка, а там у садку ў густы зараснік, дзе паляглі на зямлі. За агарод не асмеліліся ісці — там поле і могуць адразу прыкмеціць. У тых зарасніках Ульяна Міхайлаўна прачакала з дзецьмі да цямна. Спярша немцы і паліцаі бегалі па вёсцы і зганялі людзей, а потым стралялі і палілі. Ульяна чакала — іншага выхаду не было. Калі падпалілі хату, яшчэ можна было трываць. Калі ж стаў гарэць хлеў, месца не знаходзілі. Дзяцей прыкрывала сабой, каб не згарэлі. У самой падсмаліліся валасы, а Ульяна ўсё дзеткі ратавала. Уставаць з зямлі баяліся: могуць заўважыць. Так і праляжалі ў тых садовых зарасніках да змяркання.

А праз тыдзень Мікалая знайшла яго цётка Надзя. Разам з іншымі пастушкамі ён знаходзіўся на балоце, начаваў у стажку сена, што стаяў на грудку. Ежу прыносілі большыя хлапчукі. Яны хадзілі ў Красніцу, Выганашчы, на хутары і прасілі хлеба. А бульбу самі шукалі на полі, капалі і пяклі на кастры.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*

*Івацэвіцкі і Бярозаўскі раёны.*

*(Працяг будзе).*



● ПОДСКАЗКА

# Домашние хитрости

✓Если замок-молния туго застёгивается, попробуйте слегка смазать его вазелином при помощи старой зубной щётки.

✓Ключ с трудом поворачивается в замке? Натрите его парафиновой свечкой.

✓Ножницы станут острее, если "постричь" ими швейную иголку.

✓Чтобы линолеум всегда блестел, периодически протирайте его тряпочкой, смоченной водой с добавлением скипидара.

✓Избавиться от неприятного запаха нафталина поможет горчичный порошок. Насыпьте немного порошка в шкаф, а через сутки смахните тряпочкой.

✓На вашем столе даже зимой будет свежая зелень, если вы заморозите её в лоточках для льда. Заполните их на три четверти стебельками петрушки, укропа, кинзы и других трав, залейте доверху водой и поставьте в морозилку.

✓Бутылку с узким горлышком легко отмыть, если налить в неё до половины воду с яичной скорлупой или мелкими кусочками бумаги и несколько раз встряхнуть.

● ЛЯ ЛЮСТЭРКА



# Маска з капусты квашанай

Гэта маска робіць тлустую і вуграватую скуру мяккай і пругкай. Пакладзіце капусту тоўстым слоем на твар, накрыйце сурвэткай, а праз паўгадзіны зніміце і змажце твар крэмам. Такую маску варта рабіць рэгулярна 1 раз у тыдзень.

# Фруктовая маска

Разомните 1-2 стол. ложки мякоти спелой дыни, смешайте с 1 чайн. ложкой сливок или йогурта, добавьте взбитый в плотную пену яичный белок и нанесите массу на лицо и область декольте на 10 мин. Перемешайте яичный желток з размятым персиком, нанесите маску на лицо и через 15 мин. смойте тёплой водой.

● АЎТААМАТАРАМ

# Вы і ваш аўтамабіль

■ Не мыйце аўтамабіль на сонцы і на ветры. Кожная кропля вады ператвараецца ў "лупу", і сонца з яе дапамогай разбурае слой фарбы. Вецер жа хутка высушыць кузаў, але мыйныя сродкі могуць застацца на фарбе і разбурыць яе.

■ Некалькі кропель шампуню, дабаўленыя ў бачок абмывальніка ветравога шкла, паляпшаюць работу шчотак шклоачышчальніка.

■ Калі зламаўся "дворнік", трэба працерці шкло тытунём размятай цыгарэты, і дажджынкі будуць саслізгваць з яго паверхні.

■ Калі чыстыя шчоткі шклоачышчальніка пакідаюць на шкле падцёкі, значыць, састарэлі або знасіліся іх гумавыя паласкі. У гэтым выпадку трэба прайсціся па кантах рабочай часткі зярністай шкуркай, каб выраўняць іх і зняць зацвярдзелы слой гумы.



■ Шкло аўтамабіля не запацее, калі яго працерці вільготнай соллю, загорнутай у марлю.

● ИНТЕРЕСНО ЗНАТЬ

# КОМУ СТРАШНЫ МАГНИТНЫЕ БУРИ?

***Солнечная активность влияет на наше здоровье и , увы, не самым положительным образом.***



Время от времени на солнце происходят вспышки неизвестного происхождения, и в результате сгустки плазмы вылетают в космос. Через два дня они доходят до Земли и вызывают геомагнитные колебания. Это и есть магнитная буря. Сами по себе магнитные колебания, связанные с бурями, слабее, чем те, что возникают возле обычной трансформаторной будки... Но в томто и дело, что наш организм, как радиоприёмник, настроен на слабые магнитные поля и весьма на них реагирует. В частности, изменяется состав крови — она становится гуще и течёт медленнее. А значит, ухудшается снабжение клеток кислородом и питательными веществами. Здоровый организм компенсирует эту "неприятность" тем, что быстро перестраивается. А вот организм, ослабленный недугами, реагирует. Возникает головная боль, заторможенность, вялость, раздражительность. Особенно страдают люди с сердечными заболеваниями, вегето-сосудистыми расстройствами, с избыточным весом. По статистике, во время магнитных бурь число инфарктов увеличивается более чем в 3 раза, инсультов — в 2, приступов стенокардии — в 1,5. В эти дни увеличивается смертность и нарастает общесоциальный психоз.

Какую же защиту на сегодня можно найти от солнечных возмущений? Прежде всего людям с перечисленными выше недугами нужно отслеживать в печати информацию о предстоящих магнитных бурях. Накануне рекомендуется попить разных успокаивающих настоек типа пустырника, боярышника, валерианы. Хорошо поддержит организм и стакан отвара шиповника. Некоторым помогают полтаблетки аспирина, так как он способствует разжижению крови.

В эти дни нужно сократить приём углеводов, попросту — сладостей. Отказаться от мяса и жирной пищи. А вот овощи, фрукты, молочнокислые продукты и рыба не противопоказаны.

Не стоит злоупотреблять и физическими нагрузками — всевозможными стирками, уборками, копаниями грядок.

В эти дни эмоциональные нагрузки способны более всего вывести человека "из колеи". Так что берегите свое хорошее настроение. Не смотрите политические, криминальные и прочие будоражащие передачи. Больше гуляйте и читайте прекрасную литературу.

К сожалению, очередной пик солнечной активности приходится на 2000 — 2001 год. Так что людям, входящим в группу риска, нужно внимательнее отслеживать информацию о геофизических изменениях солнца. Никакие долгосрочные прогнозы не соответствуют действительности. Конкретную магнитную бурю можно предсказать лишь за 2-3 дня — только после того, как произойдёт вспышка на солнце.

*("Труд").*

● ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

# Приятного аппетита

**Картофельные ватрушки.** Сварить 1 кг картофеля в мундире, очистить и протереть через сито, перемешать с яйцом. Раскатать массу на разделочной доске, посыпанной мукой. Вырезать кружочки и выложить их на смазанный маслом противень. Середину каждого кружочка слегка вдавить и выложить по 1 стол. ложке начинки. Для начинки смешать 140 г творога с 1 яйцом, 1 стол. ложкой сахара и 4 стол. ложками сметаны. Перед выпеканием надо смазать ватрушки яичным желтком.

**Свекла с хреном.** Очистить и натереть 400 г вареной свеклы, смешать с 1 натёртым яблоком, 1 стол. ложкой тёртого хрена, добавить по вкусу соль и сахар, 100 г сметаны. Все компоненты хорошо перемешать.

**Коктейль "Шанхай".** Выложить салатными листьями 4 вазочки. Мелко нарезать 400 г мяса вареной курицы, 120 г ананаса и 120 г тушеных шампиньонов, смешать. Разложить смесь по вазочкам, полить заправкой из 500 г йогурта, 4 стол. ложек белого вина, 20 г горчицы и 120 г майонеза.

**Запеканка из помидоров.** Смешать 400 г вареного риса, 1 стакан сливок, 150 г тёртого сыра, 2 стол. ложки рубленой петрушки, добавить соль, красный перец, мускатный орех и положить в смазанную жиром форму. Сверху выложить 100 г пассерованного лука, разрезанные на половинки 500 г помидоров, кусочки шпика (200 г) и запечь.

**Мятный квас.** Нарезать 1 кг черствого ржаного хлеба, положить на противень и подсушить. Сухари залить кипятком (5 л), дать настояться 4 часа и процедить. В сусло всыпать 1 стакан сахара, размешать, добавить 60 г дрожжей, разведённых в теплой воде, 15 веточек мяты, размешать и оставить бродить на 12 часов при комнатной температуре. Квас процедить и разлить в бутылки. Положить в каждую по две изюминки и оставить незакупоренными, пока не начнут подниматься пузырьки. Закрыть бутылки и поставить в холодильник.

● "ЗВЁЗДНАЯ" РОССЫПЬ

# Леонтьев после операции



Валерий Леонтьев теперь передвигается только с палочкой. У него из-за любви к огненным танцам развилась профессиональная болезнь спортсменов — воспаление мениска. Операцию певцу в ЦИТО делал известный профессор Михаил Лисицын. Операция прошла успешно, но после неё обычно бывает очень длительный восстановительный период. Так что после концертов певца поддерживают телохранители.

● ХОТИТЕ — ВЕРЬТЕ...

# Американский лидер, избранный в "нулевой " год, всегда погибает

***Текумсе, легендарный вождь племени шайенов, возглавлял союз индейцев, воевавших вместе с англичанами против американцев в 1812-1813 годах. Молва приписывала Текумсе феноменальные способности мага и пророка. Накануне своей гибели 45-летний Текумсе якобы проклял всех будущих американских президентов, избираемых в годы, оканчивающиеся на "нуль". Вождь пригрозил, что ни один из них не доживёт до конца своего президентства.***

Вот как действовало "проклятие нуля", по-другому называемое ещё "нулевой фактор".

**1860 год** — президентом становится Авраам Линкольн, которого переизбирают в 1864-м. 14 апреля 1865 года его застрелил агент мятежных южных штатов актёр Бут.

**1880 год** — побеждает на выборах Джеймс Гарфилд, а в июле 1881 года ненормальный адвокат Гито убивает его выстрелом в спину на вокзале Вашингтона.



Текумсе

**1900 год** — президентом США избран Уильям Мак-Кинли. 6 сентября 1901 года он гибнет от руки венгерского эмигранта-анархиста Чолгаша.

**1920 год** — хозяином Белого дома становится Уоррен Гардинг. Он умирает, отправившись в поездку по Аляске — по официальной версии от отравления грибами.

**1940 год** — в третий раз лидером страны избран Франклин Рузвельт. Он внезапно умирает 12 апреля 1945 года.

**1960 год** — Америка отдаёт предпочтение Джону Кеннеди. Молодой президент застрелен в техасском городе Даллас 22 ноября 1963 года.

**1980 год** — "к рулю" встаёт Рональд Рейган. Он — единственный лидер страны, который не стал жертвой "проклятия нуля". Но 30 марта 1981 года возле отеля "Хилтон" в Вашингтоне на него покушался маньяк Джон Хинкли. Он успел выстрелить в президента 6 раз. Одна из пуль пробила лёгкое и остановилась в 2 см от сердца.

ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

# Как уберечь ребенка от зубной боли

Есть немало таких, кто не уделяет должного внимания уходу за зубами детей: они, мол, молочные, все равно поменяются. И в этом они глубоко заблуждаются. Молочные зубы вырастают к 2,5 годам, а смена временных зубов заканчивается к 12—13 годам. И до этого времени ребенку надо жить с молочным прикусом. Кариесом же зубы малыша разрушаются очень быстро и болят у детей точно также, как и у взрослых. Поэтому не ждите, когда зуб у вашего ребенка разболится так, что станет невмоготу. Придите раньше, когда заметили начало кариозного поражения тканей зуба.

Начинайте профилактику уже в период беременности, когда закладываются все органы и системы пола, в том числе и зубы. Будущей маме надо питаться правильно, чтобы зубы у малыша появились крепкими, здоровыми. В питании должны преобладать овощи, фрукты, соки, морские и молочные продукты, богатые минеральными солями, которые необходимы для твердых тканей зуба. Дополнительно беременным нужно принимать препараты фтора, кальция в профилактических дозах. После рождения ребенка профилактика кариеса заключается в уменьшении потребления углеводов. Лучше выбрать один день в неделю, когда малышу можно позволить съесть пирожное, конфету или другие "сладкие радости". После этого пусть почистит зубы или хотя бы пополощет рот зубным эликсиром. Можно пожевать жевательную резинку без сахара, чтобы восстановить кислотно-щелочной баланс слюны.

Второй путь защиты от кариеса — применение фтора для защиты эмали зубов. Наш организм получает его из воды и пищи. В воде Беларуси этого микроэлемента содержится очень мало, поэтому его нужно принимать дополнительно: пить минеральную (Дворцовую) воду, содержащую фтор, пользоваться фторированной солью для приготовления пищи и полоскания (1 ч. л. с верхом на стакан воды) или принимать фтористые таблетки. Конечно, фтор-профилактика должна быть индивидуальной, ее назначает врач-стоматолог. Мама может сама, без консультации стоматолога давать детям минеральную воду с фтором и пользоваться фторированно-йодированной солью.

А самое главное, что должны сделать родители — это выработать у своих детей привычку регулярно ухаживать за зубами. Зубная щетка ребенка должна быть яркой, красивой, ее рабочая часть не должна превышать 20 мм.

Вот основные правила чистки зубов:

1. Обязательно чистите зубы дважды в день (после завтрака и перед сном).

2. Придерживайтесь основных движений щетки: вертикальных (от десны до края зуба), круговых, подметающих.

3. Зубы очищайте со всех сторон, заканчивайте процедуру чисткой языка.



Кроме основных средств гигиены, есть еще много профилактических способов по уходу за полостью рта. Это зубные эликсиры, аэрозоли, жевательные резинки, зубные ершики, зубочистки. Сейчас, кроме регулярной чистки зубов, современные стоматологи рекомендуют взрослым и детям старше 13—14 лет пользоваться флоссами (зубными нитями), чтобы полностью очищать боковые поверхности зубов от налета.

*Тамара ВАКУЛИЧ,*
*зав. стоматологической поликлиникой Ивацевичского РТМО.*

ЗДАРЭННІ

## На пераездзе — зноў трагедыя

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэта адбылося ў мінулую нядзелю ў 11 гадзін раніцы на чыгуначным пераездзе ля вёскі Міхнавічы. 50-гадовы трактарыст калгаса "Перамога" Івацэвіцкага раёна на сваім МТЗ з прычэпам сутыкнуўся з электрычкай. Рух на чыгунцы Брэст—Мінск быў спынены на некалькі гадзін, а трактарыст з цяжкімі траўмамі, у непрытомным стане дастаўлены ў Івацэвіцкую раённую бальніцу.

Гэта другая буйная трагедыя сёлетняй восенню на Міхнавіцкім неахоўваемым пераездзе. Ці не настаў час кіраўніцтву Беларускай чыгункі вярнуць ахову на гэты злашчасны пераезд?

*Кастусь ДЗЯМЧУК.*

## Дыверсія ў школе

**БАРАНАВІЧЫ.** Юныя хуліганы ўжо не задавальняюцца хлуслівым замініраваннем, аб якім ананімна паведамляюць у міліцыю. Яны прыдумалі новы від дыверсіі. Нехта з жартаўнікоў на другім і трэцім паверхах ліцэя № 1 і СШ № 22, якія знаходзяцца ў адным будынку, распырскаў слёзатачывы газ тыпу "чаромха", ад якога дзеці цэлы дзень кашлялі і абліваліся слязьмі. Зрабіць гэта, аказваецца, не складана, бо газавы балончык можна набыць свабодна ў магазіне для паляўнічых і рыбаловаў.

*Алесь САШЫН.*

## Першы снег

Першы снег у гэтым годзе!
Важна свята ў прыродзе!
Снег пакрые лес, паляны,
Ляжа белым ён дыванам.
Цёпла стане дрэвам, траўцы,
Снег прысядзе і на лаўцы.
Вельмі доўга ён кружыўся,
За дарогу так стаміўся,
Што сядае без разбору
І на градку, і ў разору...
Белым-бела ўсё кругом —
Луг і рэчка, плот і дом...

*Раіса ЖМАЧЫНСКАЯ.*
*г. Белаазёрск.*

## Анекдоты

Отец:
— Володя, соседи сказали мне, что ты с Татьяной встречаешься?
— Да, папа, а что?
— Нет, ничего страшного, сынок. Просто я в твои годы тоже с ней встречался.

XXX

Просыпается мужик с большого бодуна. Поднимается, обхватывает голову руками и стонет:
— Вчера была пятница... Завтра суббота... Господи! А что же сегодня?!

XXX

Приезжает новый русский из провинции в Москву. Заходит в ресторан и, вальяжно рассевшись, говорит пробегающему мимо официанту:
— Мне чего-нибудь за штуку баксов!!!
— Мы блюда на четыре части не делим!!!

XXX

Смертельно больной старик диктует завещание:
— Жене я завещаю 100 тысяч, сыну — 50, дочери — тоже 50...
Подумав, добавляет:
— Господи, где же я возьму столько денег?

XXX

— Американскими учеными наконец-то разгадана тайна гибели "Титаника".
— Как же они это сделали?
— Фильм посмотрели.

XXX




*Малюнак Аляксандра ВАРАНЦОВА (г. Івацэвічы).*

## ГОРОСКОП

4.12—10.12

**ОВЕН (21.3—20.4)** Во всю мощь заработает интеллект. Однако временами вами управляет сила далеко не высшего порядка, хотя вы и не лишены здравого смысла. Немало проблем создадут мнительность и суеверие.

**ТЕЛЕЦ (21.4—20.5)** Уместно призадуматься над жизнью: она становится напряженнее и хаотичнее. Поможет самоанализ (вторник, среда), чтобы не упасть лицом в грязь и получше узнать свой внутренний мир. Ваши дни — пятница, суббота.

**БЛИЗНЕЦЫ (21.5—21.6)** Не пропадут, если честно и добросовестно будут служить идее. Работа интеллекта отрегулирована довольно четко и бесперебойно. В творческой сфере успех приведет на Олимп лишь людей целенаправленных и с Божьей искрой в сердце.

**РАК (22.6—22.7)** Снизится тонус жизненной активности. Причина банальна: это перенапряжение жизненных сил и неумение регулировать свои будни. Ваши дни — среда, четверг.

**ЛЕВ (23.7—23.8)** Окажетесь в тисках финансового кризиса. Отчасти покачнется и душевное равновесие в связи с отдельными нерешенными вопросами. Вы не лишены юмора, и это как-то настраивает на лучшее.

**ДЕВА (24.8—23.9)** Фортуна благосклонна в тонких делах интима. Вы будете на неплохом творческом взлете. А вот как финансист, вы фигура низшего пошиба. К концу недели чувства могут огрубеть. Ваш день — понедельник.

**ВЕСЫ (24.9—23.10)** Постепенно подойдете к решению важнейших дел, касающихся предпринимательства и бизнеса. Будет успешной работа судей и делопроизводителей. Не уклоняйтесь от бытовых забот, чтобы жить приличной нормированной семейной жизнью.

**СКОРПИОН (24.10—22.11)** Страстно увлечет мир искусства и, в то же время, свой узкий меркантильный мирок, что не может не вызвать раздвоения. Вообще нежелательно замыкаться в себе. Ваш день — вторник.

**СТРЕЛЕЦ (23.11—21.12)** Хорошая жизненная перспектива, которая требует своего осуществления. Благодаря самообладанию и выдержке, вы способны решать дела даже с известной степенью риска. Не будьте горделивы и надменны.

**КОЗЕРОГ (22.12—20.1)** Неплохой недельный период. Появится возможность рассчитываться со старыми долгами. Прекрасные возможности для раскрытия творческих дарований.

**ВОДОЛЕЙ (21.1—19.2)** Фортуна благосклонна, ожидают прибыльные дела. В то же время семейные отношения желают быть лучшими: вы капризны и импульсивны. Не следует забывать об общепринятых моральных нормах.

**РЫБЫ (20.2—20.3)** Не утратите доверия у близких людей и будете энергичны и деловиты. В коммерческой сфере не обойтись без знаний глубинной психологии, чтобы работать с огоньком и уверенно. Ваш день — вторник.

## ПАДЗЯКА

Выказваем сардэчную падзяку калектыву "ПП Харужы" і яго кіраўніку Сяргею Уладзіміравічу Харужаму, сваякам, сябрам, блізкім людзям — усім тым, хто аказаў нам матэрыяльную і маральную падтрымку ў сувязі з напаткаўшым нас горам — смерцю жонкі, маці, свекрыві, бабулі **ГАРЧАКОВАЙ Надзеі Сяргееўны.**

*Муж, дзеці, нявесткі, унукі.*

## ЧАСТНЫЕ ОБЪЯВЛЕНИЯ

Продаём кирпичный дом (68,0/44,2/10,1) в д. Кабаки Березовского района. Все удобства, газовое отопление, телефон, кирпичный сарай, гараж. Рядом — остановка электричек. Телефон в Березе 54-3-54.

**Супрацоўнікі рэдакцыі "Газеты для вас" выказваюць глыбокае спачуванне пазаштатнаму карэспандэнту Вячаславу Рыгоравічу Гарчакову з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці Надзеі Сяргееўны.**



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць адзін раз на тыдзень: у пятніцу. Фармат 420x300 мм. Аб'ём — 3 друк. аркушы. Падпісана да друку 30 лістапада ў 14.00. Заказ 3624.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас". Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі. Спасылка на нашу газету абавязковая.

Падпісныя індэксы: 63834 (індывідуальная) 64145 (ведамасная)
Кошт: у кіёсках "Саюздруку" — 85 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.
Тыраж 8.000 экз.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА
АДРАС РЭДАКЦЫІ:
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы
Тэл/факс 8 (245) 2-12-29.
E-mail: box@gdlavas.belpak.brest.by gdv@irex.minsk.by